❑ **Вярхоўны Савет зноў павінен вярнуцца да абмеркавання бюджэтнага пытання.** 1-я стар.

❑ **У бліжэйшы час можа адбыцца павышэнне платы за жыллё. Чым гэта абернецца?** 1-я стар.

❑ **Беларусь і свет: ці бяднейшыя мы за іншых?** 3-я стар.

# ЗВЯЗДА

19 красавіка 1996 г. пятніца, № 103 (22906)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### ПРЭЗІДЭНТ НЕ ПАДПІСАЎ ПРЫНЯТЫ ВЯРХОЎНЫМ САВЕТАМ БЮДЖЭТ

**Пастаянная Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па бюджэту, падатках, банках і фінансах на сваім пасяджэнні 17 красавіка разгледзела заўвагі Прэзідэнта па Закону аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь аб падатках на даходы і прыбытак, а таксама па прадстаўленаму Вярхоўным Саветам на зацвярджэнне Прэзідэнту праекту бюджэту на 1996 год.**

У прыватнасці, Прэзідэнт не пагадзіўся з прынятым Вярхоўным Саветам рашэннем аб вызваленні аб выплаты падатку на прыбытак вытворчасці харчовай прадукцыі, вырабляемай калгасамі, саўгасамі і іншымі сельскагаспадарчымі фарміраваннямі, уключаючы падсобныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы і арганізацыі, лічачы, што гэта прывядзе да неабгрунтаванага зніжэння даходнай часткі бюджэту і ўзнікнення розных негатыўных з'яў. Прэзідэнт таксама папрасіў вярнуцца да разгляду пытання па спагнанню платы за жыллё зыходзячы не з жылой, а з агульнай плошчы. Кіраўнік дзяржавы не пагадзіўся з тым, што парламентарыі павялічылі расходы на фінансаванне Вярхоўнага Савета больш чым у два разы. З пункту гледжання Прэзідэнта, парламентарыі таксама неабгрунтавана адхілілі артыкул 30 праекта Закона аб бюджэце, у якім прадугледжвалася права Прэзідэнта ўдакладняць у мэтах забеспячэння збалансаванасці бюджэту яго даходнай і расходнай часткі ў рамках устаноўленага дэфіцыту.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, БЕЛТА.**

### КАГО ВАБІЦЬ БЕЛАРУСЬ?

**Паводле даных Прадстаўніцтва ААН у Беларусі, цяпер у нашай рэспубліцы зарэгістравана больш за 1.800 бежанцаў.**

Гэта лічба не ўключае ў сябе людзей, якія прыязджаюць у Беларусь з краін, што ўваходзяць у састаў СНД. Бежанцы і асобы з краін СНД, якія шукаюць прыстанішча, рэгіструюцца ў рэспубліцы Дзяржаўнай міграцыйнай службай. Паводле яе даных, толькі за два гады (1992—1994 гг.) іх было ў нашай краіне каля 25 тысяч чалавек.

Больш за ўсё спадабалася Беларусь грамадзянам з Расіі. У 1994 годзе адтуль у нашу рэспубліку прыбыло каля 1.100 чалавек. Услед за Расіяй ідзе Казахстан (780 чалавек), Латвія (760 чалавек), Літва (400 чалавек). Больш як палова бежанцаў — асобы беларускага паходжання (2.400 чалавек), якія пражывалі на тэрыторыі іншых краін і вяртаюцца зараз у Беларусь. Сярод астатніх 1.700 рускіх і 300 украінцаў.

Аднак многія мігранты не хаваюць свайго жадання перабрацца ў іншыя замежныя дзяржавы. Жыццё ж у нас таксама не цукар.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

### КАЛЕКТЫВУ РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА»

ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Прыміце мае сардэчныя віншаванні са знамянальным юбілеем — 75-годдзем з дня выхаду першага нумара газеты «Чырвоная змена».

Моладзь нашай роднай Беларусі з дапамогай вашай газеты спасцігала нялёгкую навуку жыцця, станавілася дастойнай зменай сваіх бацькоў. Яскрава і пераканаўча расказвала «Чырвоная змена» аб многіх стваральных справах маладых. У цяжкі час ваеннага ліхалецця клікала на барацьбу. У гады мірнай працы разам з маладымі рабочымі, хлебаробамі, вучонымі нястомна імкнулася і зараз імкнецца адрадзіць і ўмацаваць родную Бацькаўшчыну.

Газету любяць, ёй вераць. У гэтым — асноўная заслуга яе супрацоўнікаў. Журналісты «Чырвонай змены» заўсёды вылучаліся творчай смеласцю, высокім прафесіяналізмам, патрабавальнымі адносінамі да сябе і сваёй пачэснай справы, рэалістычным падыходам да новых пачынанняў.

Жадаю супрацоўнікам газеты, а таксама яе аўтарскаму актыву творчых поспехаў, здароўя, асабістага шчасця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ.**

### ХТО ДАПАМОЖА НАШЫМ ДЗЕЦЯМ?

**По стану на 1 студзеня 1995 года, у Міністэрстве сацыяльнай абароны было зарэгістравана 18.545 дзяцей-інвалідаў ва ўзросце да 16 гадоў, з якіх 1.953 жывуць у спецыялізаваных дзіцячых дамах.**

Колькасць дзяцей-інвалідаў за апошні час павялічвалася і ў параўнанні з паказчыкамі за 1991 год амаль падвоілася. З агульнай колькасці інвалідаў з дзяцінства дзеці-інваліды ва ўзросце да 16 гадоў складаюць 40 працэнтаў. Сярод дзяцей-інвалідаў на долю дашкольнікаў прыпадае 48 працэнтаў, школьнікаў — 52 працэнты. Першае месца ў дзяцей займаюць хваробы нервовай сістэмы, другое — расстройствы псіхікі, трэцяе — хваробы і хібы развіцця касцёва-мышачнай сістэмы і ўнутраных органаў.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

### КАМАРОЎКА ЗНОЎ БЯРЭ ВОДПУСК

Камароўскі рынак сталіцы 22, 23 і 24 красавіка будзе зачынены для прадаўцоў і пакупнікоў у сувязі з правядзеннем санітарна-тэхнічных і рамонтных мерапрыемстваў напярэдадні летняга сезона. У адміністрацыі рынку катэгарычна адхілілі чуткі аб тым, што галоўная харчовая «крама» Мінска перыядычна зачыняецца нібыта для таго, каб спажыўцы раскуплялі больш дарагую сельскагаспадарчую прадукцыю ў дзяржгандлі.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### АБ ПАДРЫХТОЎЦЫ БЕЛАРУСКІХ СПАРТСМЕНАЎ ДА АЛІМПІЙСКІХ І ПАРАЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯЎ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка прыняў указ аб некаторых мерах па падрыхтоўцы беларускіх спартсменаў да Алімпійскіх і Паралімпійскіх гульняў у 1996 і 1998 гадах. Згодна з указам, зацверджаны памеры ўзнагароджанняў атлетам, якія заваявалі алімпійскія медалі, і іх трэнерам. Зацверджаны 80 імянных стыпендый Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выдатным спартсменам і іх трэнерам.

Міністэрству спорту і турызму прапанавана ў трохмесячны тэрмін унесці ва ўстаноўленым парадку кіраўніку дзяржавы на зацвярджэнне палажэнне аб парадку назначэння і выплаты імянных стыпендый.

Ва ўказе адзначана, што асобы, якія маюць ганаровыя званні «Заслужаны трэнер СССР («Заслужаны трэнер БССР») і «Заслужаны майстар спорту СССР», прыраўноўваюцца да асоб, удастоеных адпаведна ганаровых званняў «Заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь» і «Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь».

Прэзідэнт гэтым жа ўказам даручыў Кабінету Міністраў устанавіць парадак кампенсацыі Міністэрству спорту і турызму, Нацыянальнаму алімпійскаму камітэту, спартыўным федэрацыям, прызнаным Нацыянальным алімпійскім камітэтам, сум мытных плацяжоў, выплачаных імі пры мытным афармленні рэчаў, неабходных для забеспячэння падрыхтоўкі і ўдзелу спартсменаў у Алімпійскіх і Паралімпійскіх гульнях 1996 і 1998 гадоў, а таксама прыняць неабходныя меры па падрыхтоўцы і камандзіраванню спартыўнай дэлегацыі Беларусі на XXVI Алімпійскія гульні 1996 года.

Міністэрству працы сумесна з Міністэрствам юстыцыі прапанавана разгледзець пытанне аб аднясенні дзяржаўных трэнераў і трэнераў нацыянальных каманд да служачых дзяржаўнага апарату.

Міністэрствам, іншым цэнтральным органам кіравання, аблвыканкомам, Мінскаму гарвыканкому даручана прыняць меры па стварэнню ўмоў для эфектыўнай работы спартыўных школ і вучылішчаў алімпійскага рэзерву, вырашэнню сацыяльна-бытавых пытанняў спартсменаў і трэнераў, а таксама расшырэнню, рэканструкцыі і ўтрыманню спартыўных збудаванняў, што з'яўляюцца спартыўнымі базамі для падрыхтоўкі алімпійскіх каманд, устанаўленню для іх льготных тарыфаў і плацяжоў за электрычную і цеплавую энергію, газ і іншыя віды паліва, водазабеспячэнне і землекарыстанне.

Міністэрству спорту і турызму і па яго рэкамендацыях упраўленням па фізічнай культуры, спорту і турызму аблвыканкомаў, камітэтам па культуры, спорту і турызму райвыканкомаў і гарвыканкомаў, а таксама фізкультурным і спартыўным арганізацыям дазволена аплачваць за кошт уласных сродкаў трэнерам, спецыялістам, суддзям па гульнёвых і іншых відах спорту 70 працэнтаў кошту турыстычных пуцёвак, кіраўнікам груп — поўны іх кошт пры выездзе ў саставе спецыялізаваных турыстычных груп на Алімпійскія гульні і Алімпійскія дні моладзі Еўропы, чэмпіянаты свету і Еўропы.

Дзяржаўнаму камітэту па авіяцыі даручана ажыццявіць неабходныя мерапрыемствы па забеспячэнню дастаўкі спартыўных дэлегацый Беларусі на Алімпійскія і Паралімпійскія гульні 1996 і 1998 гадоў.

**БЕЛТА.**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 18 красавіка 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 13000 | 13100 | 8700 | 9000 | 2.55 | 2.75 | 769-531 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 13000 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 13020 4950 | 13100 5038 | 8700 | 8850 | 2.60 | 2.65 | 531-504 |
| Гал. упр. НБ па г. Мінску і Мінскай вобл. | 13050 | | 8750 | | | | 266-441 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 13000 4960 | 13100 5077 | 8650 | 8950 | 2.58 | 2.65 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12900 | 13100 | 8600 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» | 12950 | 13100 | 8650 | 8850 | 2.50 | 2.65 | 372-825 |
| Народны банк | 13000 | 13100 | 8750 | 8900 | 2.55 | 2.63 | 238-610 |
| «Алімп» | 12800 | 13100 | 8700 | 9000 | 2.55 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 13000 | 13100 | 8700 | 8850 | 2.53 | 2.65 | 291-646 067 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12900 | 13100 | 8550 | 9100 | 2.60 | 2.70 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 12160 | | 8072.76 | | 2.43 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4909 | | 3252.93 | | 100 бел.р. 38.40 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

*НАДЗЁННАЕ*

## ПЛАТА ЗА ЖЫЛЛЁ: ЯКОЙ БУДЗЕ АПОШНЯЯ КРОПКА?

**Аб тым, што плата за жыллё ў бліжэйшы час будзе павышацца, думаў бадай што кожны жыхар Беларусі. Да чаго можа прывесці рэзкае павышэнне тарыфаў на жыллё і чым яно абгрунтавана? Прапануем вашай увазе думку па гэтых пытаннях галоўнага спецыяліста сектара рэгулявання рыначных адносінаў эканамічнага ўпраўлення апарату Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Казака і пазіцыю Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ).**

В. Казак лічыць, што ў праекце закона аб дзяржаўным бюджэце на бягучы год дакладна запісана, што плацяжы насельніцтва ў 1996 годзе за ўтрыманне жылля і камунальныя паслугі павінны складаць 80 працэнтаў затрат прадпрыемстваў жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Камітэт цэн Міністэрства эканомікі па ініцыятыве Мінжылкамунгаса, Мінпаліўэнерга і канцэрна «Белпаліўгаз» звярнуўся ў Кабінет Міністраў з прапановай павысіць дзеючыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі ў сярэднім на 50 працэнтаў. Аднак гэта прапанова пасля прапрацоўкі яе шэрагам міністэрстваў і грамадскіх арганізацый не была падтрымана Міністэрствам сацыяльнай абароны і Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі. А згодна з Генеральным пагадненнем паміж Кабінетам Міністраў РБ, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў на 1996 год урад краіны абавязаны ўлічваць думку бакоў, што падпісалі гэта пагадненне, пры вырашэнні пытанняў, якія датычаць сацыяльна-эканамічных інтарэсаў працоўных. Таму, на думку Вячаслава Адамавіча, рашэнне аб павышэнні тарыфаў жыллёва-камунальнага сектара будзе прынята на бліжэйшым пасяджэнні Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях.

Згодна з пазіцыяй Федэрацыі прафсаюзаў, мяркуемае павышэнне тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі не мае дастатковых падстаў і не можа быць ажыццёўлена без прыняцця дзейсных мераў па стабілізацыі фінансавага становішча прадпрыемстваў і папярэдняга павышэння даходаў насельніцтва. На думку сацыяльна-эканамічнага аддзела савета ФПБ, аднабаковае павышэнне тарыфаў прывядзе да росту запазычанасці грамадзян па аплаце расходаў на камунальныя паслугі, якая па стану на 1 студзеня 1996 года ўжо складала 46 млрд. рублёў, і ўзмоцніць крызіс ў жыллёва-камунальнай гаспадарцы рэспублікі. Спецыялісты аддзела прапануюць перагледзець сістэму выдзялення безнаяўных жыллёвых субсідый, асноўным паказчыкам, па якім трэба вызначаць неабходнасць аказання дапамогі грамадзянам у аплаце жыллёва-камунальных паслуг, павінна быць рыса малазабяспечанасці. Інакш рэальнага права на дзяржаўную падтрымку пазбаўляюцца найбольш неабароненыя слаі насельніцтва, у тым ліку мнагадзетныя сем'і, пенсіянеры, інваліды.

Федэрацыя прафсаюзаў лічыць недапушчальным увядзенне новых тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі без поўнага вырашэння вышэйуказаных задач.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## «ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ» ГРОШЫ ПОЙДУЦЬ ТОЛЬКІ НА ЧАРНОБЫЛЬСКІЯ ПРАГРАМЫ

Як паведамлялася ўжо, 17 красавіка, на другі дзень сваёй паездкі па раёнах, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведаў Слаўгарадскі раён. У вёсцы Свенск у яго адбылася сустрэча з вяскоўцамі, работнікамі мясцовых гаспадарак, а таксама ўстаноў райцэнтра.

— Я другі раз прыязджаю ў радыяцыйную зону вашай вобласці, — сказаў Прэзідэнт. — І цяпер хачу пракантраляваць, як выконваюцца даручэнні, што я даваў у першы прыезд.

Трэба высветліць, адзначыў ён, куды лепш укладваць «чарнобыльскія» грошы. На яго думку, гэтыя сродкі на іншыя мэты, як раней, больш не пойдуць, а будуць накіроўвацца на канкрэтныя чарнобыльскія праграмы. «Цяпер Беларусь разам з Расіяй, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, — будуць вырашаць гэту праблему, пачалася ўжо яе сумесная прапрацоўка». Дарэчы, ён удзяліў шмат увагі беларуска-расійскім адносінам. Вяскоўцы выказалі гарачую падтрымку яго намаганням у гэтым напрамку.

Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў свае абяцанні аб дзяржаўнай падтрымцы падводу прыроднага газу ў забруджаныя радыяцыяй рэгіёны. Будзе звернута ўвага і на будаўніцтва там медыцынскіх устаноў.

Напружаным быў і другі дзень знаходжання Прэзідэнта на Магілёўшчыне. Раніцай 18 красавіка верталёт прызямліўся ў калгасе імя Калініна Краснапольскага раёна. А. Лукашэнка наведаў дзіцячы сад, падарыў яму тэлевізар і халадзільнік. Затым агледзеў жылы пасёлак, магазін, іншыя сельскія службы, пазнаёміўся з мясцовай гаспадаркай.

Тутэйшы калгас, як і ўвесь раён, абпаліла чарнобыльская стыхія. Асабліва пацярпелі пяць вёсак — людзей прыйшлося перасяліць на цэнтральную сядзібу ў дамы новага пасёлка.

— Нам удалося захаваць і гаспадарку, і асноўныя кадры, — расказаў старшыня калгаса Станіслаў Шаўцоў. — У мінулым годзе, напрыклад, звяно Васіля Байголава сабрала па 297 цэнтнераў бульбы з гектара, а ў сярэднім па гаспадарцы ўраджайнасць яе склала 217 цэнтнераў. Калгас заваяваў у абласным спаборніцтве першае месца. У гэтым годзе мы расшыраем пасевы бульбы. І, наогул павялічваем пасяўныя плошчы на тысячу гектараў за кошт тых, якія раней кінулі з-за радыяцыі. Аказваецца, пры захаванні патрэбнай тэхналогіі на іх можна атрымаць чыстую прадукцыю.

Дарэчы, у цэлым па раёну па рэкамендацыі вучоных сёлета збіраюцца асвойваць 6 тысяч гектараў такіх зямель. Гэта пачынанне краснапальчан падтрымаў і Прэзідэнт, выступаючы перад працаўнікамі мясцовага і суседніх гаспадарак.

— Мы вернемся да асваення гэтых кінутых зямель, — сказаў ён, — дапаможам вяскоўцам тэхнікай, сродкамі на будаўніцтва жылля. «Чарнобыльскія» грошы з гэтага часу не будуць накіроўвацца, як гэта было раней, у Мінск, у Гродзенскую, Віцебскую вобласці, а будуць укладвацца ў такія, як ваш, і іншыя пацярпеўшыя раёны. Але ўкладвацца разумна, з перспектывай для будучых пакаленняў. Мы дапаможам будаваць жыллё, сацкультбыт, каб адрадзіць вёску, сельскую гаспадарку.

Кіраўнік дзяржавы падрабязна спыніўся на пенсіённым забеспячэнні. Ён паабяцаў, што да першага студзеня 1997 года будзе перагледжана пенсіённае заканадаўства. Над гэтым, паводле яго слоў, ужо працуюць Вярхоўны Савет, Адміністрацыя Прэзідэнта. Аляксандр Лукашэнка адказаў на шматлікія пытанні па цэнах, аплаце за жыллё і іншых вострых праблемах.

У той жа дзень Прэзідэнт наведаў пасёлкі, пабудаваныя для перасяленцаў у вёсках Кароўчына і Пудаўня Дрыбінскага раёна. А вечарам у Магілёве адбылася нарада з кіраўнікамі і спецыялістамі «чарнобыльскіх» раёнаў па падвядзенню вынікаў гэтай паездкі.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**



У вышэйшай школе кіравання і бізнесу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта адбыўся першы выпуск магістраў эканомікі. Новыя спецыялісты ў галіне знешнеэканамічнай дзейнасці, фінансавага менеджменту, банкаўскай справы, безумоўна, прынясуць карысць нашай краіне.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ЦІ МОЖНА АСОБНЫМ ДЭПУТАТАМ СЯДЗЕЦЬ АДРАЗУ НА ДВУХ КРЭСЛАХ?

**Такое цікавае пытанне было самым актуальным на сесіі Вярхоўнага Савета, якая прадоўжыла сваю работу 18 красавіка**

Засумаваўшы крыху па выступленнях пасля перапынку ў пленарных пасяджэннях Вярхоўнага Савета, 18 красавіка дэпутаты праявілі вялікую актыўнасць у традыцыйным раздзеле «Рознае».

Леанід Юнчык вярнуўся да праблемы асвятлення работы Вярхоўнага Савета беларускімі СМІ, і ў прыватнасці радыё і тэлебачаннем. Ён успомніў факт ігнаравання Белтэлерадыёкампаніяй пастановы ВС аб арганізацыі прамой радыё- і тэлетрансляцыі разгляду ў парламенце Паслання Канстытуцыйнага суда. Л. Юнчык паведаміў, што ад намесніка генеральнага пракурора атрыманы адказ, што няма ніякіх прававых падстаў прымусіць старшыню БТРК змяніць падачу інфармацыі аб рабоце Вярхоўнага Савета... Аднак Л. Юнчык зрабіў выснову, што Генпракуратура разгледзела гэтую праблему аднабакова і прапанаваў унесці змены ў Кодэкс «Аб адміністрацыйных парушэннях» — для таго, каб стала магчымым прыцягнуць да адказнасці кіраўнікоў СМІ, якія не выконваюць пастановы парламента...

Дэпутат Пётр Краўчанка выказаў пажаданне, каб выканаўчая ўлада больш актыўна прапаноўвала ВС свой «сацыяльны заказ» — свае праекты па ўдасканаленню існуючага заканадаўства, і перш за ўсё ў галіне эканомікі.

Дэпутат Валерый Шчукін выказаў сваю крыўду, што ў Канстытуцыйным судзе пасля разгляду справы аб законнасці рашэння ўрада, які паменшыў пенсіі ваеннаслужачым, прадстаўнік Кабінета Міністраў А. Сасноў назваў асобных афіцэраў акупантамі...

Анатоль Малафееў звярнуў увагу парламентарыяў на тое, што ў сувязі з нявыплатамі заработнай платы і пенсій кватэранаймальнікі не могуць своечасова аплачваць камунальныя паслугі і кватэрную плату і ў выніку вымушаны плаціць пеню. На думку А. Малафеева, гэта несправядліва, асабліва ў адносінах да маламаёмных і пенсіянераў. Дэпутат прапанаваў разгледзець гэтую праблему Кабінету Міністраў і аблегчыць цяжар жыцця для тых, хто і так па віне дзяржавы несвоечасова атрымлівае зарплаты і пенсіі.

Дэпутат Віктар Цярэшчанка звярнуўся да ўсіх галін улады з прапановай увесці мараторый на змяненні дзеючай Канстытуцыі на працягу 2-3 гадоў.

Затым Вярхоўны Савет разгледзеў расклад вынасу пытанняў, уключаных у парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета, на красавік і май. У прыватнасці, пытанне аб правядзенні дадатковых выбараў ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы будзе разгледжана ў маі.

Пасля гэтага Вярхоўны Савет фактычна трапіў у пастку, падрыхтаваную для яго тымі дэпутатамі, якія працуюць аднача́сова ў структурах выканаўчай улады. Справа ў тым, што, паводле Закона аб Вярхоўным Савеце, пасля трох месяцаў з дня прызнання іх паўнамоцтваў яны павінны былі вызначыцца: ці застануцца яны працаваць у прэзідэнцкіх структурах, ці пяройдуць на пастаянную працу ў Вярхоўны Савет. Такая дылема паўстала прыблізна перад двума дзесяткамі дэпутатаў, і толькі некалькі з іх паспелі прыняць рашэнне.

Віктар Ганчар заявіў, што ў падобнай сітуацыі ўсе прынятыя ВС рашэнні могуць быць прызнаны нелегітымнымі, а сама дзейнасць Вярхоўнага Савета можа быць паралізавана. Яго падтрымалі дэпутаты Бухвостаў і Знавец, запярэчылі — дэпутаты Новак, Малумаў, Калякін. У рэшце рэшт сышліся на тым, што пытанне гэтае не прапрацавана Камісіяй Вярхоўнага Савета па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы і Прэзідыум Вярхоўнага Савета яго не пракантраляваў. Нарэшце быў знойдзены кампраміс: старшыня названай камісіі Анатоль Красуцкі абавязаўся выступіць канкрэтна па ўсіх персаналіях дэпутатаў, якім трэба зрабіць выбар.

У той жа дзень Вярхоўны Савет разгледзеў вернутыя Прэзідэнтам законы аб змяненнях і дапаўненнях у законы аб Кабінеце Міністраў і аб Прэзідэнце. Прапанаваныя Прэзідэнтам папраўкі былі пераважна падтрыманы. Тупіковая сітуацыя склалася толькі па праблеме аб праве выканаўчай улады ўстанаўліваць абмежаванні на заработную плату для ўсіх формаў уласнасці. Дэпутаты не змаглі пераадолець вета Прэзідэнта дзвюма трацямі галасоў, але не пагадзіліся і з яго папраўкай...

Пасля перапынку з абяцаным дакладам выступіў старшыня Камісіі па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы Анатоль Красуцкі. Ён паведаміў вынікі вывучэння камісіяй акалічнасцей дзейнасці парламентарыяў, якія згодна з заканадаўствам не могуць выконваць дэпутацкія паўнамоцтвы. Як вядома, паводле часткі другой арт. 92 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, дэпутатамі Вярхоўнага Савета не могуць быць Прэзідэнт, члены Кабінета Міністраў, суддзі, а таксама асобы, якія назначаюцца на пасаду Прэзідэнтам або па ўзгадненню з ім. Такім чынам, у поле зроку камісіі трапіла 18 народных выбраннікаў, якія ў большасці прадстаўляюць так званую «прэзідэнцкую вертыкаль»: работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта, старшыні райвыканкомаў ды іншыя. Ёсць і двое суддзяў. Гэтыя дэпутаты (паўторымся) павінны былі на працягу трох месяцаў вызначыцца, дзе працаваць: ці на ранейшым месцы, ці ў парламенце. Але, на жаль, гэта своечасова зроблена не было. У выніку на ўчарашні дзень патрабаванне вызначыцца з месцам работы прагучала ў адрас адзі-

(Заканчэнне на 3-й стар.)

### Уладзімір Башарымаў незадаволены выказваннямі дыктара «Панарамы»

**18 красавіка на сесіі Вярхоўнага Савета старшыня Камісіі парламента па бюджэту, падатках, банках і фінансах Уладзімір Башарымаў выказаў сваё здзіўленне і нездаволенасць выказваннямі дыктара «Панарамы» 17 красавіка аб тым, што з-за Вярхоўнага Савета, які позна прыняў бюджэт, не выплачваюцца своечасова пенсіі і зарплата бюджэтнікам. У. Башарымаў зазначыў, што калі жанчына не мае рацыі, то, як заведзена ў англічан, трэба папрасіць у яе прабачэння. Што ён і зрабіў, а пасля цалкам абверг такую інфармацыю. Карэспандэнт «Звязды» папрасіў У. Башарымава больш падрабязна расказаць аб гэтай праблеме.**

— Я нечувана здзіўлены, як можна звальваць усе беды па бюджэту, усе эканамічныя праблемы на Вярхоўны Савет, які нічога не парушыў. Калі б Кабінет Міністраў прадставіў да першага лістапада, як таго патрабуе закон, свае законапраекты па бюджэту і падаткаабкладанню, мы б ніякіх тэрмінаў не парушылі, іх, напэўна, разгледзеў бы Вярхоўны Савет яшчэ

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## «ПАДАЙЦЕ ДЗЕСЯЦЬ КІЛАГРАМАЎ «КАРАТЭ» БЕДНАМУ КАЛГАСУ...»

У Гродзенскім міжгарнізонным ваенным судзе нарэшце фінішаваў працэс, аб пачатку якога «Звязда» паведамляла 2 снежня мінулага года. У гэтай крымінальнай справы наўрад ці знойдзецца шмат аналагаў. Бо асабіста мне пакуль не даводзілася бачыць на лаве падсудных адразу дваццаць чалавек. Адных толькі канваіраў у зале знаходзілася прыкладна паўсотні. Плюс яшчэ сведкі (іх было дапытана каля двухсот), а таксама жонкі, бацькі і іншыя сваякі падсудных. «Балельшчыкі», само сабой, не кожны дзень прысутнічалі на працэсе, паколькі капітану юстыцыі Валерыю Цімафяевічу спатрэбілася амаль тры месяцы, каб разабрацца ва ўсіх абставінах крымінальнай справы і вынесці прыгавор. Ён наступны: дзевятнаццаць чалавек прызнаны віноўнымі (хто больш, хто менш, але на ўсіх яны атрымалі 99 гадоў папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму), аднаго — апраўдалі. У асуджаных будуць канфіскаваны, у прыватнасці, дзесяць асабістых аўтамабіляў. Аднак у тое, што яны калісьці цалкам разлічацца па прад'яўленых «рахунках», верыцца слаба, правільней сказаць, не верыцца зусім. Мяркуйце самі: агульная сума, якая падлягае спагнанню, перавышае 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў. І гэта толькі тое, што даказана следствам і судом.

Які ж інтарэс звёў у адзіным парыве калгаснага агранома і грузчыка, прыватнага прадпрымальніка і беспрацоўнага, мытніка і пагранічніка, асоб з зусім нераўназначнай адукацыяй, маладых і не вельмі?

... Быў час, калі не ў адных толькі флагманаў беларускай сельгасвытворчасці, але і ў іншых, так званых серадзнякоў, нешта было.

У прыватнасці, ядахімікаты, і не абы-якія, а самыя сучасныя, як кажуць, казырныя. Адпаведна іх якасці — і цана. Скажам, пяцікілаграмовая бляшанка некаторых ядаў «цягне» на нашу сярэднестатыстычную пенсію. Праўда, не за месяц, а за цэлы год. Такім чынам, акрамя даўгоў па крэдытах у многіх калгасаў меліся сапраўдныя каштоўнасці, дзякуючы якім можна было паспяхова змагацца са шкоднікамі раслін, а значыць павышаць ураджайнасць. Але адна справа, калі бляшанка чатырохсотдоларавага дэфіцыту належыць асабіста табе, і зусім іншая — калі калектыву. У першым выпадку яе захаванасць гарантавана не на сто, а на ўсе дзвесце працэнтаў. У другім жа... Дастаткова прыгадаць крымінальную інфармацыю, якая яшчэ нядаўна мела пастаянную «прапіску» на старонках газет. Сэнс яе быў аднолькавы: «Крадуць!» На мільёны, калі не кожны дзень, дык праз суткі. Журналісты пісалі пра ноч, адсутнасць вартаўнікоў, узламаныя дзверы ці разбітыя шыбы калгасных складоў. Міліцыя шукала зладзеяў, накіроўваючы петыцыі аграрнаму начальству, каб яно задумалася. Начальства збірала нарады, давала прачуханку, распрацоўвала мерапрыемствы...

Вынік: цяпер пра крадзяжы хімікатаў прэса піша значна радзей. Прычыны тут бачацца дзве: альбо лепей стала з аховай, альбо, што найбольш верагодна, ужо няма чаго красці. А было ж, было... Спачатку — у калгасах. Затым — [illegible]м гаражы ў Ваўкавыску, куды неяк зазірнула міліцэйскае «вока». Падрыхтаваны да рэалізацыі тавар уражваў і колькасцю, і асартыментам. Але якая ж гэта была дробязь у параўнанні з тым, што «сплыло» ў Польшчу, да тамтэйшых фермераў... У выніку што? А тое, што пракуратура Гродзенскай вобласці і ўпраўленне КДБ былі вымушаны амаль два гады змагацца па сутнасці з учарашнім днём, бо раскручванне злачыннай спіралі зусім не азначала вяртання ўкрадзенага.

... Сёння толькі самі злачынцы ведаюць, колькі замкоў было імі сарвана з калгасных складоў на працягу «ядахімікатаўскай кар'еры», колькі шыбаў разбіта. Хаця, напэўна, і яны маглі збіцца з ліку, бо выходзілі на начную аперацыю так, як рабочы ідзе на завод, а настаўніца — у школу. Вынікі ж дзейнасці злачыннай групы, доказаныя следствам і судом, наступныя: на працягу сямі месяцаў 1993 года абрабаваны дванаццаць гаспадарак Гродзеншчыны і адна — Брэстчыны. Увогуле зафіксавана васемнаццаць эпізодаў, паколькі некаторыя склады былі «ўзяты» па некалькі разоў.

Зразумела, што гэтыя «поспехі» сталі магчымы дзякуючы не толькі калгасным кадрам, але і пэўнаму «прафесіяналізму» зладзеяў. Уявіце сабе такую карціну: ноч, па дарозе рухаюцца два аўтамабілі, паміж імі кіламетр. У першым — толькі шафёр, ён жа па сумяшчальніцтву «разведчык». Яго задача — папярэдзіць аб небяспецы сваіх кампаньёнаў з другой машыны, у якой толькі што «набытыя» хімікаты. Гэта зусім нескладана, не трэба ні крычаць, ні сігналіць — хопіць аднаго слова па рацыі.

Дарэчы, партатыўнымі радыёстанцыямі «групу захопу» — братоў Франца, Пятра і Паўла Сальбукоў плюс яшчэ Аляксандра Ліса забяспечыў галоўны «каардынатар» усіх аперацый Віктар Петраш. У свой час гэты спецыяліст працаваў на кіруючай пасадзе ў Ваўкавыскай калоніі строгага рэжыму, адкуль быў звольнены «за дыскрэдытацыю». Але Петраш не прапаў, уладкаваўшыся намеснікам начальніка ў мясцовую пажарную каманду. Тут, дарэчы, ён і браў вышэйпамянёныя сродкі сувязі. Акрамя таго, на новай рабоце ў Петраша хапала вольнага часу, які быў выкарыстаны для збору інфармацыі аб месцах знаходжання хімікатаў. Аб'екты памячаліся на карце, пасля чаго браты Сальбукі з Лісам атрымлівалі «ўстаноўку» і браліся за справу.

Асобых праблем пры гэтым, як правіла, не ўзнікала, бо пераважная большасць складоў размяшчалася на значнай адлегласці ад вёсак, а аховы не было. Да таго ж пакінутае з «носам» калгаснае кіраўніцтва не вельмі ахвотна выносіла, як гаворыцца, смецце з хаты і далёка не заўсёды звярталася ў міліцыю. Ну які «прафесіянал» не выкарыстае такі «падарунак»? У выніку склад саўгаса «Гнезна» Ваўкавыскага раёна за лічаныя дні абчысцілі двойчы. Такі ж лёс на працягу нейкага тыдня напаткаў і склад калгаса імя Чкалава Свіслацкага раёна. Прычым залазілі туды праз... адно і тое ж акно. Увогуле ж у гэту гаспадарку «гоп-кампанія» наведвалася ажно чатыры разы, украўшы ядахімікатаў больш чым на дзвесце мільёнаў рублёў. Гэта, заўважце, толькі фактычныя страты. А калі падлічыць ускосныя, звязаныя з тым, што будучы ўраджай як след не абаранілі ад шкоднікаў...

Праўда, не заўсёды атрымлівалася так, як планаваў Петраш. «Пракол» здарыўся ў саўгасе «Шылавічы» Ваўкавыскага раёна. Навучаныя на горкім вопыце суседзяў, тутэйшыя аграномы вырашылі схаваць вельмі каштоўныя хімікаты пад мінеральнымі ўгнаеннямі. І не дарэмна — зладзеі, пранікшы ў склад, так і не здолелі адшукаць тавар. Але не пакідаць жа аб'ект з пустымі рукамі! Няма «хіміі» — ёсць заправачная станцыя, а там бензін. Раніцай у саўгасе падлічылі і, як кажуць, заплакалі: 700 літраў паліва як не бывала. Ну а што датычыць зладзеяў, дык яны адразу ж пасля візіту ў «Шылавічы» накіраваліся ў іншую гаспадарку. Там схаваць хімікаты ад чужога вока не дадумаліся. Відаць, не было ўгнаенняў. У выніку заданне Петраша злачынцы хаця і не цалкам, але выканалі. Дарэчы, шэф вельмі строга кантраляваў работу сваіх партнёраў. Аднойчы яны атрымалі прачуханку за тое, што ўзялі не самыя каштоўныя хімікаты. Другім разам Петраш закаціў сапраўдны скандал: маўляў, як гэта вы адважыліся аддаць тавар не яму, а іншаму скупшчыку! А што? Рынак, канкурэнцыя...

...Пра «акно» на мяжы паклапаціўся Тадэвуш Самардак, яшчэ адзін кампаньён спецыяліста з пажарнай каманды. Гэта ён наладзіў у «Брузгах» кантакт са старшым прапаршчыкам Валерыем Гетманавым і мытным інспектарам Андрэем Надточыем. Умовы супрацоўніцтва цалкам задавальнялі абодва бакі: ядахімікатам — «зялёная вуліца», кантралёрам — «зялёныя» грошы, 200 долараў за «аперацыю». З гэтай сумы адна палова даставалася беларускім кадрам, а другая — іх польскім калегам. Праўда, неўзабаве палякі пачалі скардзіцца, што жыццё, маўляў, даражэе і таму кантрабандысты былі вымушаны плаціць ім не 100, а ўжо 150 «баксаў».

Вядома, Гетманаў з Надточыем рызыкавалі. Бо пасля таго, як яны прапусцілі хімікаты, машыну маглі нечакана пераправерыць іншыя кантралёры. Але і на гэты выпадак усё было прадумана. На руках у кліентаў заўсёды меліся два аформленыя пячаткай талоны. Усё нармальна — у ход ідзе адзін, з дазволам на выезд. Раптам спыняць — калі ласка, вось вам анулявана вашымі калегамі папера, вяртаемся назад...

На судзе калгасныя аграномы скардзіліся, што склады ніхто не хоча ахоўваць, а Тадэвуш Самардак, пачуўшы прыгавор (8 гадоў турмы), заплакаў. Яшчэ большы тэрмін дастаўся Францу і Пятру Сальбукам, Аляксандру Лісу. Яны былі ў сапраўдным шоку: маўляў, не ведалі, што гэтыя хімікаты столькі каштуюць, Петраш не казаў, а то нагі нашай не было б на гэтых праклятых складах. Плакалі бацькі асуджаных, асабліва тых, каго ўзялі пад варту адразу ж пасля абвяшчэння прыгавору. І толькі Петраш не плакаў, не каяўся, так і не прызнаўшы сваёй віны.

...Ужо пасля завяршэння працэсу да капітана юстыцыі Валерыя Цімафяевіча прыйшоў старшыня аднаго калгаса і папрасіў вярнуць хаця б дзесяць кілаграмаў «каратэ»...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# Банк «Алімп»: стабільнасць і ўстойлівасць




*Банк «Алімп» (першапачатковая назва «Экаразвіццё») зарэгістраваны Дзяржбанкам СССР 27 верасня 1990 года як паявы банк з некалькімі камерцыйнымі структурамі ў якасці заснавальнікаў. 19 жніўня 1991 года зарэгістраваны Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь як акцыянерны. Рэгістрацыйны нумар 16.*

*«Алімп» — адзін з банкаў рэспублікі, якія развіваюцца найбольш дынамічна. Па выніках розных рэйтынгаў 1995 года «Алімп» уваходзіць у дзесятку мацнейшых банкаў Беларусі, а па асобных паказчыках займае 2—4-е месцы.*

*Банк мае генеральную ліцэнзію № 22 на ажыццяўленне аперацый у замежнай валюце, выдадзеную Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь 5 красавіка 1994 г. З'яўляецца членам міжнароднай сістэмы абмену фінансавай інфармацыяй SWIFT.*

*У галіне крэдытавання «Алімп» традыцыйна прапануе як рублёвыя, так і валютныя рэсурсы, старанна адпрацоўваючы з кліентам схемы выдачы сродкаў, іх выкарыстання і пагашэння. «Алімп» першым сярод банкаў рэспублікі прапануе крэдытаванне імпартных аперацый суб'ектаў гаспадарання пад залог тавару, яшчэ не пастаўленага на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь (груз у дарозе), забяспечваючы перавозку, страхоўку, дэклараванне, захоўванне (ахову), экспертызу, магчымую рэалізацыю.*

*Перавага комплекснага абслугоўвання кліента ў «Алімпе» — у прапанаванні банкам паслуг міжнароднай транспартнай арганізацыі (перавозкі ўсімі відамі транспарту) і саліднай страхавой кампаніі. Гэтыя і іншыя арганізацыі працуюць з банкам па спецыяльных дагаворах.*

*Прамыслоўцаў і пачынаючых бізнесменаў банк крэдытуе па значна паніжаных працэнтных стаўках дзякуючы выкарыстанню механізмаў вэксальнага крэдытавання.*

*Кліенты, якія жадаюць мець мінімум рызыкі, працэнтных ставак і максімум зручнасцей пры набыцці машын, абсталявання і іншай нерухомасці могуць скарыстаць паслугі службы лізінгу банка «Алімп», якая купіць неабходны тавар за ўласныя сродкі банка і здасць яго ў карыстанне за вельмі ўмераную плату. Мяркуемага контрагента па заяўцы кліента старанна праверыць служба эканамічнай бяспекі банка «Алімп».*

*Як прафесіянальны ўдзельнік рынку каштоўных папер, банк прапануе прадпрыемствам і арганізацыям, якія пачалі прыватызацыю, комплекс паслуг са здачай работ «пад ключ». Сюды ўваходзяць: падрыхтоўка тэхніка-эканамічнага абгрунтавання схемы прыватызацыі прадпрыемства, распрацоўка праспекта эмісіі каштоўных папер, правядзенне падпіскі на каштоўныя паперы і рэгістрацыя падпіскі ў Інспекцыі па каштоўных паперах, друкаванне бланкаў каштоўных папер, іх улік і захоўванне, арганізацыя другаснага абарачэння каштоўных папер эмітэнта, выплата інвестарам дывідэндаў.*

*Актыўна ўдзельнічаючы ў рабоце з дзяржаўнымі казначэйскімі абавязацельствамі (ДКА) у якасці першаснага інвестара Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, банк «Алімп» выконвае заказы сваіх кліентаў па набыццю ліквідных і высокадаходных ДКА.*

*Ва ўмовах усё большага абвастрэння крызісу неплацяжоў паміж суб'ектамі гаспадарання «Алімп» прапануе эфектыўны інструментарый «расшывання» неплацяжоў пры дапамозе выкарыстання як таварных, так і фінансавых вэксаляў. Валодаючы разгалінаванай сеткай банкаў-карэспандэнтаў у розных краінах далёкага і блізкага замежжа, банк можа выступаць пасрэднікам у набыцці каштоўных папер любога замежнага эмітэнта.*

*Банк «Алімп» праводзіць актыўную палітыку ў сферы міжбанкаўскіх разлікаў, з'яўляючыся клірынгавым цэнтрам для 50 банкаў-карэспандэнтаў Расіі, Украіны, Малдовы, Прыбалтыкі, Сярэдняй Азіі. Падтрымліваюцца карэспандэнцкія адносіны з банкамі Амерыкі, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.*

*У «Алімпе» сфарміраваны высокапрафесіянальны калектыў, здольны эфектыўна вырашаць тыя задачы, якія ставіць перад банкам і яго кліентам рэальная эканоміка.*

*«Алімп» удзяляе значную ўвагу развіццю жыццёва важных напрамкаў эканомікі рэспублікі. Такая пазіцыя звязана з разуменнем ролі банкаўскага сектара як аднаго з гарантаў стабільнасці і ўстойлівасці ў краіне.*

***Валерый СЯЛЯЎКА, старшыня праўлення банка «Алімп»:***

## «Банкаўскі капітал «Алімпа» будзе задзейнічаны на ўзвядзенні магістральнага газаправода «Ямал — Заходняя Еўропа». Гэта — маштабны доўгатэрміновы праект, які прыцягне да сябе немалыя фінансавыя сродкі, забяспечыць інвестыцыйныя ўліванні ў іншыя галіны рэспублікі»

***З нядаўняга часу істотным чынам змяніў свой статус акцыянерны банк «Алімп», які з адносна невялікага банка (па сваіх актывах)ператварыўся ў адзін з буйнейшых у рэспубліцы. Гэтаму пасадзейнічаў расійскі капітал, у прыватнасці капітал расійскіх «Газпромбанка» і акцыянернага таварыства «Газпром», якія сталі асноўнымі акцыянерамі «Алімпа», фактычна — яго пераважнымі ўладальнікамі, намнога апярэдзіўшы па велічыні статутнага капіталу ўсіх іншых акцыянераў банка, разам узятых...***

***Наша гутарка са старшынёй акцыянернага банка «Алімп» Валерыем Сляўкам.***



**— Валерый Уладзіміравіч, дык радавацца нам з той нагоды, што ў «Алімпа» цяпер гэткі моцны, але практычна знешні, расійскі, гаспадар, ці не?**

— Так, «Алімп» у выніку прыходу гэтых акцыянераў павялічыў статутны капітал з 1,1 мільёна да 5 мільёнаў ЭКЮ (дарэчы, мы маем на мэце давесці статутны фонд да 5,6 мільёна ЭКЮ, адпаведна — аб'явілі падпіску), і «Алімп» па статутнаму капіталу выходзіць недзе на 6-е месца ў рэспубліцы. Акцыі ж пакуль размеркаваліся наступным чынам: у «Газпромбанка» і РАТ «Газпром» сумесна — 70 працэнтаў, ва ўсіх астатніх акцыянераў з нашага боку — адпаведна — 30, прычым каля 15 працэнтаў павінна быць у «Белтрансгаза», які таксама далучыўся да акцыянераў «Алімпа» ў выніку яго рэарганізацыі. Многіх, відаць, зацікавіць, а колькі ў знакамітай фірмы «Пушэ», з якой звычайна звязваюць утварэнне банка з самага пачатку і ўвогуле наступнае валоданне ім, — у «Пушэ» цяпер крыху больш як 5 працэнтаў.

Так, фактычна адбылося пераўтварэнне «Алімпа» ў банк зусім новай якасці, ён практычна стаў расійскім. У пранікненні расійскага «Газпрома» і «Газпромбанка» на наш фінансава-банкаўскі рынак няма нічога дрэннага. Гэта нясе з сабой тыя ж інвестыцыі, якіх нам востра не хапае. Увогуле, падобным узаемным пранікненнем капіталаў вызначаецца дзелавое жыццё ўсяго Захаду. Капітал не мае якой-небудзь палітычнай ці іншага роду афарбоўкі. Ён прыходзіць у тую ці іншую краіну, каб працаваць. І няхай працуе, у дадзеным выпадку — у нас, няхай стварае пэўныя матэрыяльныя каштоўнасці, якія потым ужо нельга ўзяць і куды-небудзь вывезці з нашай зямлі — яны пры любых абставінах застануцца ў нас жа.

І яшчэ. У нас пастаянна на самых высокіх узроўнях гаворыцца аб стварэнні фінансава-прамысловых груп, праз якія можна ажыццяўляць сумесныя праекты, сумесную вытворчую дзейнасць і г. д., праз якія можна аднаўляць тыя ж разбураныя эканамічныя сувязі паміж краінамі СНД (варта прыгадаць: з іх разбурэннем многія звязваюць цяперашні крызіс), словам, узмацняць эканамічную інтэграцыю. Утварэнне, па сутнасці, новага банка «Алімп» — гэта рэальны крок у азначаным напрамку. На сённяшні дзень прыход да нас гэткага масіраванага замежнага банкаўскага капіталу можна звязаць пакуль з двума банкамі — з «Алімпам» і філіялам «Масбізнесбанка» ў Мінску, які ўтвораны яшчэ раней.

**— Вашы аргументы гучаць як быццам пераканаўча, але, мяркую, усё роўна не абыдзецца без таго, каб хто-небудзь не сказаў: «Скупляюць»...**

— Я хацеў бы прывесці наступны прыклад у пацвярджэнне ўжо сказанага. Многія немцы цяпер, можа, і не ведаюць або не любяць прыгадваць, што іх заводы «Опель» на самай справе адрадзіла, рэанімавала пасля вайны амерыканская фірма «Джэнерал мотарс», якая прыйшла ў Германію са сваім капіталам. Цяпер гэтыя нанава ўзведзеныя заводы забяспечваюць работай і, адпаведна, сродкамі да існавання нямецкіх грамадзян, тут выпускаюцца знакамітыя легкавыя аўтамабілі. З адзнакай, што зроблена ў Германіі, з прыбыткам для краіны. Вядома, і фірма «Джэнерал мотарс» мела ад гэтага сваю выгаду... Да нас заходні капітал пакуль што не рвецца, яму трэба бачыць большую стабільнасць, быць упэўненым у большай прадказальнасці, якіх у нас, на жаль, нестае, заходнія ўладальнікі капіталаў не разумеюць нашай спецыфікі, нашых умоў. А між тым, як падкрэслівалася ўжо, нам крайне неабходны інвестыцыі. Віцэ-прэм'ер Лінг у адным са сваіх выступленняў зазначыў: рэспубліцы для таго, каб аднавіць нармальную работу ўсёй гаспадаркі, патрэбна каля 50 мільярдаў долараў. Дзе ўзяць? Добра, што, нягледзячы на свае ўнутраныя цяжкасці, значна пайшла наперад па шляху рэформаў Расія і, адпаведна, змагла захаваць свой інвестыцыйны капітал, добра, што яна ўкладвае яго ў нашу эканоміку. Расіяне няблага ведаюць і нашу спецыфіку, умовы (яны, па сутнасці, аднатыпныя з расійскімі), адпаведна, не баяцца таго, што страцяць тут сродкі марна.

**— Усякая рэарганізацыя мае на ўвазе пэўныя мэты, а таксама пэўную змену функцый, накірункаў дзейнасці... З пэўнымі ж мэтамі прыходзіць і расійскі капітал, ці не так?**

— Банкаўскія функцыі вызначаюцца ўстойлівай кансерватыўнасцю, галоўныя з іх — банкаўска-касавае абслугоўванне і крэдытаванне — застаюцца нязменнымі. А вось што датычыць накірункаў, ці сферы прымянення цяперашняга банкаўскага капіталу «Алімпа», — у гэтым, сапраўды, чакаюцца пэўныя змены. Як ужо можна здагадацца, банкаўскі капітал «Алімпа» будзе задзейнічаны на ўзвядзенні магістральнага газаправода «Ямал—Заходняя Еўропа», які пройдзе праз нашу рэспубліку. Гэта маштабны доўгатэрміновы праект, які прыцягне да сябе немалыя фінансавыя сродкі, забяспечыць інвестыцыйныя ўліванні ў іншыя галіны рэспублікі, стварэнне новых рабочых месцаў. Словам, у гэтых адносінах у нашага банка неблагія перспектывы.

Адпаведна, на ўзвядзенні магістральнага газаправода замыкаюцца і інвестыцыйныя мэты расіян. Але не толькі. Гэта будуць таксама інвестыцыі ў нашы высокатэхналагічныя вытворчасці, якія існуюць у нас і, нягледзячы на агульны эканамічны заняпад, не страцілі свайго патэнцыялу: проста ў іх трэба ўдыхнуць сапраўднае жыццё, у першую чаргу фінансы, перавесці іх на рэйкі новых эканамічных адносінаў. Расійскі капітал добра бачыць гэту перспектыву. Карацей, банк будзе інвесціраваць сродкі і ў высокія тэхналогіі. А яшчэ — у малы бізнес, будзе займацца лізінгам.

**— Рэарганізацыя вашага банка, па сутнасці, супала з няпростым перыядам у дзейнасці банкаўскай сістэмы рэспублікі: многія банкі недабіраюць статутнага фонду, страцілі значную частку сваіх сродкаў, працуюць са стратамі. Можна сказаць, што гэта рэарганізацыя з'явілася таксама і свайго роду ўцёкамі ад непрыемнасцей...**

— Падобная ідэя існавала яшчэ раней, словам, з'явілася яна не ў сувязі з тымі ж непрыемнасцямі. Але каб гэта і былі ўцёкі ад іх — то яны ў найлепшым напрамку. Ад падобнага выйсця, думаю, не адмовіліся б многія, каго «дастае» сітуацыя. Яна сёння, сапраўды, няпростая і найбольш балюча б'е па невялікіх банках, да ліку якіх адносіўся раней і «Алімп».

**— Якія найбольш характэрныя цяперашнія банкаўскія праблемы вы назвалі б? Ці застрахаваны будзе ад іх «Алімп» ужо ў яго новай якасці?**

— Асноўныя цяперашнія праблемы для банкаў: якасць запазычанасці і якасць крэдытнага партфеля. Многія банкі трапілі ў надзвычай складанае становішча: вяртанне нямала якіх выдадзеных імі крэдытаў — праблематычнае (дарэчы, «Алімп» у гэтых адносінах няблага пабудаваў сваю дзейнасць: у нас ненадзейныя крэдыты складаюць крыху больш 1 працэнта).

Адначасова павысілася рызыка крэдытавання, што зніжае банкаўскую актыўнасць. Цяперашняе становішча банкаў напрамую звязана з сітуацыяй у эканоміцы: хворая эканоміка — хворыя банкі. Пазычальнікі банкаўскіх крэдытаў — прадпрыемствы, а апошнія — скрозь неплацежаздольныя. Адпаведна, страты нясуць і банкі, на рахунку якіх не вяртаюцца сродкі, а ў канчатковым выніку — іх акцыянеры. Апошняе хацеў бы падкрэсліць асабліва: абывацельскае меркаванне, якое, дарэчы, сустракаецца і ў дзяржаўных асоб, лічыць, што грошы, якія знаходзяцца ў банках, — гэта менавіта банкаўскія сродкі. Ды не — гэта сродкі кліентаў, тых жа прадпрыемстваў, якіх яшчэ канчаткова не паклала на лапаткі наша рэчаіснасць. Не памылюся, калі скажу, што сённяшні найгалоўнейшы клопат банкаў у тым, каб захаваць хоць гэтыя сродкі (а ў выніку — і сябе), адсекчы ад іх (г. зн. — ад крэдытаў) усіх, хто неплацежаздольны.

Другая праблема: недакапіталізацыя банкаў. Працей кажучы, у іх, насуперак таму ж папулярнаму сцвярджэнню, што ўсе грошы ў банках, апошніх не хапае. Усё проста: прадпрыемствы страцілі абаротныя сродкі, якія і складалі актывы банкаў — апошнія, адпаведна, страцілі адпаведны ж капітал. Многія адчуваюць немалыя цяжкасці з тым жа папаўненнем статутнага фонду, велічыня якога вызначана ў памеры 2 мільёнаў ЭКЮ. Думаю, гэтую планку пераадолеюць банкаў 10—15.

Не выключаю з першарадных праблем і праблему больш эфектыўнай дзейнасці саміх банкаў, не перашкодзіла б больш актыўна цікавіцца гэтай дзейнасцю іх акцыянерам, хоць бы асноўным, а ў першую чаргу іх заснавальнікам.

Што датычыць будучай устойлівасці «Алімпа» — дык яна будзе грунтавацца на бясспрэчнай устойлівасці і перспектыўнасці самога «газавага» праекта.

**— На прадпрыемствах па-ранейшаму наракаюць на высокі кошт крэдытаў, працэнтную стаўку. А пад які працэнт пазычаеце вы?**

— Трэба гаварыць не аб высокай або нізкай працэнтнай стаўцы, а аб дадатнай, г. зн. вышэйшай за ўзровень інфляцыі, або адмоўнай, ці ніжэйшай. У гэтым увесь сэнс. Дадатная працэнтная стаўка ўяўляе сабой спосаб барацьбы з грашовай інфляцыяй, спосаб абароны сродкаў тых прадпрыемстваў, якія працуюць нармальна, спосаб захавання банкаўскага капіталу. Адмоўная ж вядзе да абясцэньвання грошай, да інфляцыі. І калі ўжо ў гэтых адносінах дакараць банкі, то хутчэй трэба дакараць іх у тым, што яны не заўсёды і недастаткова паслядоўна вытрымлівалі вызначаную лінію.

Цалкам зразумелая нездаволенасць многіх прадпрыемстваў: кошт працэнтаў, пад якія яны бяруць крэдыты, уключаецца ў сабекошт прадукцыі, а апошняя — неканкурэнтаздольная. Карацей, у выніку, як быццам, вінаватыя банкі... Але ж ёсць інфляцыя грашовая і ёсць інфляцыя выдаткаў. Грашовую інфляцыю мы істотна прыцішылі, дзякуючы пры гэтым і дадатным працэнтным стаўкам, а вось інфляцыя выдаткаў, вытокі якой трэба шукаць у неэфектыўнасці вытворчасці і найперш — у неэфектыўнасці эканамічных адносінаў (гэтыя вытокі закладзены яшчэ тады, калі і цяперашніх банкаў не было), не ідзе на спад. Між іншым, такога ў нармальнай рыначнай эканоміцы не павінна быць. Пры спыненні грашовай інфляцыі, а г. зн. абмежаванні грашовай масы, павінны ўціскацца і кошт прадукцыі, цэны. Але для гэтага належыць уключыць механізм банкруцтваў.

І яшчэ адносна ставак. У нашай рэспубліцы цяпер стаўка рэфінансавання банкаў — 55 працэнтаў (яе лічаць высокай), а ў Расіі — 120, прычым яшчэ зусім нядаўна была 160.

Што датычыць пазыковых працэнтаў «Алімпа» — яны крыху вышэйшыя, чым у банкаў, якім выдзяляліся цэнтралізаваныя крэдытныя рэсурсы. Мы такімі рэсурсамі не карысталіся, хоць у той жа час банк крэдытаваў і дзяржаўныя прадпрыемствы.

**— Валерый Уладзіміравіч, тым не менш, банкі па-ранейшаму застаюцца пад агнём крытыкі, якая апошнім часам можа нават і ўзмацнілася (у прыватнасці, чуецца: «вы перапампавалі да сябе абаротныя сродкі прадпрыемстваў», «не клапоціцеся пра вытворчасць» і г. д.), што, увогуле, пагражае банкам нацыяналізацыяй, адносна чаго ўжо зроблены і пэўныя заявы. Што вы на гэта скажаце?**

— Гэта звычайнае адшукванне вінаватых... Што значыць «перапампавалі сродкі»? Адметнай асаблівасцю гэтага так званага пераходнага перыяду ў Беларусі з'явілася тое, што камерцыйныя банкі, заснаваныя як рыначныя інстытуты, працавалі (і працуюць) у акружэнні сацыялістычных прадпрыемстваў. Калі мець на ўвазе ўключэнне ва ўзаемаадносіны суб'ектаў гаспадарання элементаў спаборнасці, канкурэнцыі, а таксама, з аднаго боку, негатоўнасць прадпрыемстваў дзейнічаць у новых умовах, іх неэфектыўнасць і непаваротлівасць, няўменне рэагаваць на рыначную кан'юнктуру і г. д. (гэтыя «якасці» прадвызначае сам статус дзяржаўных прадпрыемстваў), і з другога боку — выхад на эканамічнае поле банкаў — больш-менш рыначных суб'ектаў — ужо адразу можна было чакаць, што прамысловы капітал часткова перальецца ў банкі. Усё тут заканамерна: капітал і павінен знаходзіцца ў руху, адшукваць больш эфектыўнага гаспадара (дарэчы, гэта не абавязкова павінны быць банкі), мець на ўвазе больш эфектыўныя, больш даходныя праекты. У канчатковым выніку на карысць больш даходных праектаў і адбывалася пэўнае пераразмеркаванне сродкаў, і гэтым хоць трохі захаваны сукупны капітал.

А цяпер адносна нацыяналізацыі, праект якой разам з колам вызначаных банкаў, здаецца, сапраўды, існуе. Варта прыгадаць: адна нацыяналізацыя ў нас ужо была — мы добра ведаем, чым усё скончылася. Не хацелася б паўтарэння. Іншая справа, калі дзяржава ў асобе дзяржаўных прадпрыемстваў паспрабуе павялічыць сваю долю ў камерцыйных банках і нават будзе дамагацца кантрольнага пакета акцый — вядома, праз тое ж папаўненне сваёй долі або куплю долі іншых акцыянераў, карацей — законным шляхам. Гэта было б нармальна. Як нармальна і тое, калі дзяржава ў выпадках банкаўскага крызісу, з мэтай стабілізацыі працэсу, скупляе кантрольныя пакеты банкаў. Так, напрыклад, было ў Ізраілі. Тым не менш, там цяпер урад займаецца прыватызацыяй банкаў.

Ставячы пытанне наконт нацыяналізацыі банкаў, відаць, спачатку трэба адказаць на наступнае пытанне: а навошта нам камерцыйныя банкі? Варта нагадаць: для таго, каб канцэнтруемы ў іх капітал накіроўваўся ў больш эфектыўныя праекты і, адпаведна, прыносіў найхутчэйшую і найбольшую аддачу, каб капіталаўкладаннямі ў найменшай ступені кіравалі адміністрацыйная, чыноўная рука і чыноўная мэтазгоднасць. І калі ў банкаў у дадзеных адносінах таксама не заўсёды атрымлівалася ўсё добра — дык гэта не толькі іх віна.

**— Сёлета прагучала, што на карэспандэнцкі рахунак «Алімпа» ў Расіі Нацыянальны банк паклаў пэўную суму сродкаў, і вы ў выніку нядрэнна на гэтым зарабілі...**

— Гэта пададзена так, як быццам была арганізавана ледзь не крымінальная акцыя. А ўсё было проста, звычайная фінансавая аперацыя. Цэнтральны банк Расіі забараніў нашаму Нацыянальнаму банку захоўваць грошы на сваіх рахунках. Мы прапанавалі Нацыянальнаму банку выкарыстаць наш карэспандэнцкі рахунак у Расіі, пры гэтым увесь даход «Алімпа» за кошт часовага размяшчэння на яго рахунку грошай склаў каля 50 мільёнаў рублёў. Можна назваць гэта спекуляцыяй, як нярэдка гучыць у адрас банкаўскіх аперацый, але само паняцце «спекуляцыя» — чыста палітычнае і ніякіх адносінаў да эканомікі не мае. Увогуле, варта б зразумець: банкаўскі тавар асаблівы — грошы, а банкі — свайго роду пасрэднікі, яны і працуюць з гэтым таварам адпаведным чынам.

Варта тут таксама дадаць: гэта не зусім нармальна, калі тое, што нехта зарабіў або жадае зарабіць, падаецца як нейкі негатыў. Да падобнага выніку, г. зн. да даходнасці, прычым найбольшай, і павінны імкнуцца кожнае прадпрыемства, кожная арганізацыя — як недзяржаўныя, так і дзяржаўныя. Вядома, маецца на ўвазе, што ўсё пры гэтым павінна быць законна. Дарэчы, сама ж дзяржава бярэ падатак з кожнага заробленага яе суб'ектамі рубля, у тым ліку банкаўскага.

**— Валерый Уладзіміравіч, вы цяпер, як старшыня праўлення «Алімпа», па сутнасці прадстаўляеце замежны, расійскі капітал. Якімі вы бачыце ўзаемаадносіны «Алімпа» з Нацыянальным банкам?**

— Хацелася б, каб яны грунтаваліся выключна на палажэннях адпаведнага заканадаўства. Лічу, што галоўны клопат Нацыянальнага банка пры выкананні ім сваіх наглядных функцый павінен заключацца ў тым, каб заўсёды забяспечваліся нармальныя ўмовы для дзейнасці камерцыйных банкаў, каб банкам не навязваліся сумніўныя праекты, сумніўныя крэдыты і працэнты і г. д., каб іх не засыпалі рознымі дырэктыўнымі тэлеграмамі. Словам, каб банкі як мага менш рызыкавалі сродкамі сваіх кліентаў, не падстаўляліся пад небяспеку страціць іх увогуле. Не хацелася б чыста адміністрацыйнага кантролю з боку НБ, прычым з мэтай на нечым падлавіць банкі, што часам мела месца. Або, скажам, ці заўсёды да лепшага выніку прыводзіць жорсткасць санкцый з боку Нацыянальнага банка? Так, жорсткасць санкцый за дэбетавае сальда камерцыйных банкаў прыводзіла сёлета да таго, што яны з тым, каб закрыць да канца дня баланс, пазычалі сродкі ў іншых банкаў нават пад 800 працэнтаў...

**— Ці можна чакаць нейкіх істотных змен у грашова-крэдытнай палітыцы ў сувязі з прыходам у Нацыянальны банк новага кіраўніцтва?**

— Лічу, што кандыдатура новага кіраўніка Нацыянальнага банка Віннікавай — цалкам прымальная. Яна добра ведае класічныя асновы банкаўскай справы, мае выдатную школу, умее стварыць каманду, арганізаваць справу. Між іншым, менавіта Віннікава і вывела мяне ў банкіры — у банку, якім яна кіравала, я і пачынаў банкаўскую дзейнасць.

Не думаю, каб з яе прыходам грашова-крэдытная палітыка змянілася істотна, хоць, вядома, нейкая карэкціроўка манетарысцкіх падыходаў, якія спадарожнічалі гэтай палітыцы, — адбудзецца. А ўвогуле, ніводны са старшынь Нацыянальнага банка, хто ім ні стаў бы, не зможа стабілізаваць эканоміку, чаго, можа, хто-небудзь і чакае. Нацыянальны банк валодае даволі вузкім наборам рычагоў — ён можа стабілізаваць грашовую адзінку, і не больш. З дапамогай тых жа манетарысцкіх метадаў, хоць у цэлым манетарызм, як ужо вынікае са сказанага, не можа быць паспяховым, калі ён дзейнічае ў хворай эканоміцы. Сёння любы са старшынь Нацыянальнага банка, прычым банка, які яўна страчвае сваю самастойнасць, з'явіўся б заложнікам эканамічнай сітуацыі. Апошняя, г. зн. сітуацыя, падуладная не банкірам, дакладней — не адным ім, асобна ўзятым, апошнюю нельга пераламаць без больш рашучых карэнных рэформаў у эканоміцы, змен у адносінах уласнасці.

**— У заключэнне раскажыце крыху пра сябе.**

— Родам з Гродзеншчыны. Закончыў у 1980 годзе БДУ — механіка-матэматычны факультэт. Працаваў спачатку ў парашковай металургіі, потым, як я казаў ужо, запрасілі ў «Беларусбанк» — на пасаду намесніка старшыні праўлення па знешнеэканамічнай дзейнасці... Словам, у выніку стаў банкірам. Ведаю англійскую, польскую і трохі літоўскую мовы. А таксама, вядома ж, сваю родную — беларускую. Дарэчы, мой бацька на памяць ведаў «Новую зямлю», я таксама што-кольвечы з яе ведаю:

*Ідзе так дзядзька і па бруку*
*Адзін за дзесяць робіць груку...*

Цудоўна. Гэта — з раздзела «Дзядзька ў Вільні». Увогуле, шкада Вільню беларускую...

У вольны час люблю рыбалку, паляванне. Праўда, упаляваў пакуль што толькі адну качку, на вялікіх звяроў рука не падымаецца...

Ды і не гэта галоўнае, не паляўнічыя трафеі. Галоўнае — пабыць з прыродай сам-насам, пабачыць і адчуць яе прыгажосць. Шкада, што на нашай прыгожай зямлі мы ніяк не можам наладзіць годнае для ўсіх жыццё...

**Гутарыў Іван БАРАНОЎСКІ.**



## Адбыўся сход акцыянераў банка «Алімп»

***На ім былі падведзены вынікі работы гэтай фінансавай установы ў 1995 годзе. Галоўны вынік дзейнасці — выкананне праграмы развіцця і павышэння ўстойлівасці функцыянавання банка.***

***Гэты факт пацвярджаюць лічбы, названыя ў дакладзе старшыні праўлення «Алімпа» Валерыя Сляўкі. Каменціруючы фінансава-эканамічныя паказчыкі, ён, у прыватнасці, адзначыў: уласны капітал банка дасягнуў у канцы 1995 года 38 мільярдаў рублёў (рост у 6 разоў), а статутны фонд павялічаны да 16,8 мільярда рублёў, што перавышае папярэднія паказчыкі ў 5,7 раза.***

***Баланс «Алімпа» перавысіў 205 мільярдаў рублёў, прыраслі абарачэнні яго сродкаў, аб'ёмы праводзімых аперацый, колькасць кліентаў. Пашырыўся і склад акцыянераў: цяпер іх у банку 529 (45 юрыдычных асоб і 484 фізічных).***

***Сход акцыянераў зацвердзіў заключэнне Рэвізійнай камісіі па справаздачы і балансу банка і пастанавіў налічыць дывідэнды па прывілеяваных акцыях у памеры 250 працэнтаў гадавых, па простых акцыях — 30 працэнтаў гадавых.***

**НА ЗДЫМКАХ:**

**1. Старшыня праўлення банка «Алімп» Валерый СЯЛЯЎКА.**

**2. Гэтыя дзверы — да захоўваемай у банку наяўнасці — дадзена адчыніць не кожнаму (яны падпарадкоўваюцца Наталлі ДАВІДОВІЧ, начальніку аддзела касавага абслугоўвання).**

**3. У аперацыйнай зале. Як і належыць, дзе Алімп, там і Зеўс (скульптура ў цэнтры залы), які на гэты раз стаў банкаўскім заступнікам.**

**4. ... плюс камп'ютэрызацыя ўсёй банкаўскай справы. За камп'ютэрам — Кацярына ПЯТРУША, эканаміст аддзела міжнародных разлікаў.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

